# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Аўторак, 25 кастрычніка 1994 года | № 114 (10814) | Цана 30 руб.


## БУДЕТ ТЕПЛО В ДОМЕ,

### утверждают в отделе топлива облисполкома

Наличие тепла сегодня мы связываем с газом или мазутом. Есть он — и часть забот с плеч долой. Но ведь не списано еще в архив и твердое топливо. Им обеспечивается в области около 9 тыс. коммунально-бытовых предприятий и более 200 тыс. частных домовладений. В прошлом году реализовали 164 тысячи тонн каменного угля, 479 тысяч тонн торфяных брикетов и 40 тысяч кубометров дров. Удовлетворили запросы в основном всех нуждающихся. Однако сейчас ситуация на рынке топливно-энергетических ресурсов обострилась. К началу зимнего отопительного сезона было продано каменного угля на 42 процента меньше по сравнению с соответствующим периодом прошлого года и на 20 — торфобрикетов.

Что касается объектов народного образования, здравоохранения, социального обеспечения и других учреждений бюджетной сферы, то до нового года они твердым топливом в основном обеспечены. А в ряде районов (Копыльский, Вилейский, Березинский, Узденский и др.) больницы, ФАПы, школы, детские дошкольные учреждения имеют запас его почти до конца зимы. Если где-то и возникают вопросы, то это результат излишнего спокойствия руководителей, ибо топлива в летний период было в достаточном количестве, и его можно было заготовить впрок.

Сейчас возникли некоторые трудности с закупкой каменного угля. Рассчитываться за него надо в течение нескольких банковских дней после получения. У нас же нередки случаи, когда уголь оплачивается через несколько месяцев, а потребители Логойского района оплачивают его только через восемь месяцев. Мы же в свою очередь не можем перечислять деньги на счета наших поставщиков. Наши неплатежи и привели к разрыву деловых связей с некоторыми из них. Задолженность шахтам у нас очень большая. Падение курса российского рубля ведет к индексации и очередному росту акцизных сборов. В топливно-энергетическом комплексе ожидается резкое повышение издержек обращения, что сказывается на росте цен. Так, два месяца назад тонна угля стоила 25 долларов, сейчас — 30 — 35 долларов, а предложения на ноябрь — 38 — 40.

Сократилось на 71 тысячу тонн и производство брикетов для нужд области. В том числе на торфобрикетных заводах: "Березинский" — на 19,6 тысячи тонн, "Ганцевичский" — на 9,2 и "Усяж" — на 14 тысяч. Сказалась нехватка сырья в весенне-летний период, когда выпускалось торфобрикетов лишь 25 — 30 процентов от расчетного графика. В настоящее время работа большинства заводов организована на полную мощность. Поэтому мы полагаем, что до конца года разрыв по реализации торфобрикетов уменьшится до 20—25 тысяч тонн.

В целом наши горрайтопливосбыты принимают все меры по обеспечению населения твердым топливом. Но люди должны знать, что они платят за него намного меньше реальной стоимости.

Например, себестоимость одной тонны торфобрикета на торфозаводе "Усяж" составляет почти 74 тыс.рублей. Реализуется же он населению по 12 тысяч, а льготной категории граждан — по 6 тысяч. Остальное доплачивает государство. Выделенные для этих целей средства сейчас почти все израсходованы. Вот и вынуждены исполкомы местных Советов изыскивать дополнительные суммы дотаций на топливо.

Сейчас в области около 125 тыс.граждан получают топливо по льготной цене — им возмещаются из бюджета затраты в размере 60 процентов, а в первом полугодии нового года они составят не свыше 40 процентов. Высокооплачиваемые слои населения будут платить за твердое топливо по полной цене.

Острота проблемы с наличием твердого топлива несколько снизилась бы, если бы отдельные райисполкомы не затягивали отвод торфяных месторождений для производства брикетов. Скажем, этот вопрос для торфозавода "Березинский" не решается с 1976 года. Молодечненский райисполком не выдает акт на право пользования землей. А сырьевых ресурсов для производства брикетов предприятие не имеет и вынуждено работать на привозном сырье низкого качества. Отсюда и высокая себестоимость конечного продукта, поэтому оптовая цена торфоугольных брикетов составляет более 150 тыс.рублей. Завод вынуждают к закрытию.

И еще одна немаловажная для нас проблема — рациональное использование топлива. Большие потери допускаются из-за несовершенства отопительных приборов, коэффициент полезного действия которых составляет 25 — 35 процентов. Многие химводоочистки не работают, промывки котлов и сетей проводятся от случая к случаю. Ряд котельных школ, клубов и других учреждений эксплуатируются без профилактики. Расчеты показывают, что при эксплуатации систем отопления свыше пяти лет коэффициент полезного действия снижается на 30 процентов. А подобных котельных, принадлежащих разным ведомствам, в области около 2,5 тысячи. Немало топлива портится. На пороге — зима. Общими усилиями надо сделать все возможное, чтобы сырьевых ресурсов было у нас в достатке.

*Анатолий ТУПИК, заведующий отделом топлива облисполкома.*

ФАКТЫ • ПАДЗЕІ • АРГУМЕНТЫ • МЕРКАВАННІ

## ЧЫЁ МАЛАКО ЛЕПШАЕ?

Аказваецца, за тры кварталы сёлетняга года лепшым на Барысаўшчыне яно было ў калгасе «Боркі». За гэты перыяд гаспадарка рэалізавала яго першым гатункам 99,6 працэнта пры сярэдняй тлустасці 3,64 працэнта.

Высокая гатунковасць малака — гэта перш за ўсё больш высокая грашовая выручка гаспадаркі, што ў наш час немалаважна, бо толькі з добрага малака атрымліваюцца высакаякасныя прадукты — смятана і масла.

Амаль аналагічных паказчыкаў дасягнулі жывёлаводы саўгаса-аграфірмы «Стара-Барысаў» і калгаса «Маяк».

У той жа час мала, у параўнанні са сваімі магчымасцямі, рэалізавалі першагатунковага малака жывёлаводы калгасаў «Мсціж», «Камінтэрн» і «Шлях Леніна». Паказчыкі ў іх горшыя, чым у сярэднім па раёне.

*Сцяпан БУКАЦІЧ.*

## БАГАТЫМ — ПАЛАЦЫ, БЕДНЫМ — ХАЛУПЫ

Той, хто выязджаў з Мінска і ўязджаў у яго з розных бакоў і розным транспартам /аўтамашынамі і паяздамі/, заўважыў, што сталіцу нашай суверэннай рэспублікі ўсё шчыльней бяруць у абдымкі дачы. Яны розных памераў — як угару, так і ўшыр. Побач з невялікімі драўлянымі домікамі стаяць трох- і пяціярусныя катэджы.Апошнія — сведкі нашых нядаўніх перамен, якія прыйшлі са словамі "рынак", "мафія" і "бізнес". І растуць гэтыя дачы-палацы быццам тыя грыбы пасля цёплага дажджу. Здаецца, толькі ўчора закладваўся падмурак новай будоўлі, а сёння бачым высокія сцены, а то і поўнасцю гатовы дом. І гэта ў той час, калі цэны на цэглу, дошкі, руберойд, іншыя будматэрыялы — фантастычныя. А для шыкоўнай жа дачы неабходна і вагонка, і бляха з нержавейкі, і паркет...

Статыстыка сведчыць, што пабудаваць нават невялікую па памерах дачу можна не за адзін год і не за адзін "лімон". Але многія "новыя гаспадары жыцця" абверглі яе. Яны ўзводзяць свае трох- і больш-павярховыя гмахі ў лічаныя месяцы. Толькі вось хвалюе адно: ці за свае кроўныя? Калі так, то ніхто нічога не мае супраць. Будуйцеся, абжывайцеся...

У аблсельгасупраўленні мы атрымалі цікавую даведку. У Мінскай вобласці налічваецца 1.379 садова-дачных таварыстваў, якія займаюць 17,2 тысячы гектараў зямлі. Найбольшая колькасць таварыстваў у Мінскім раёне. Потым ідуць Пухавіцкі, Смалявіцкі, Маладзечанскі і Дзяржынскі раёны. Вядома, тут сёння трывожная экалагічная абстаноўка. Маю на ўвазе дачныя масівы, дзе забруджваюцца ручаі і рачулкі, ля якіх мыюць уласныя аўтамабілі дачнікі, дзе шмат смецця і іншых адходаў. Бо не ўсе мы шануем і любім матухну-прыроду. У большасці выпадкаў імкнёмся браць ад яе ўсё, нічога не даючы ўзамен.

Дарэчы, настаў час абследаваць усе дачы /у першую чаргу пабудовы/ на прадмет радыяцыйнай бяспекі. Ні для каго не сакрэт, што шмат лесаматэрыялу, а то і поўнасцю пабудоў, перавезена пад Мінск з чарнобыльскіх раёнаў — з Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Ёсць факты, калі перасяленцы, атрымаўшы жыллё ў Мінску, пад рознымі прычынамі яшчэ не ўехалі ў сталічныя кватэры, а вось дачы ўзвялі. Вядома, лесаматэрыял чачэрскі, веткаўскі, кармянскі, нараўлянскі, брагінскі, хойніцкі...

Буру пралетарскага гневу выклікаюць прыклады з нашай сённяшняй рэчаіснасці, калі некаторыя чыноўнікі ад улады "бяруць усё ад жыцця", а маламаёмныя грамадзяне не маюць кватэр і дамоў, а туляцца ў халупах...

*Мікалай КУЗЬМЕНКА.*
*Фота Сяргея ГРЫЦА і Уладзіміра СІЗА.*

## ВЫРАТАВАЛЬНЫ "КАЎЧЭГ"

Вялікая бяда напаткала жыхара вёскі Рачэнь Сяргея Яфрэмавіча Пучылу: згарэў яго дом. Першыя на дапамогу прыйшлі члены праўлення раённага таварыства інвалідаў. Яны перадалі пагарэльцу 500 тысяч рублёў. Не пашкадаваў агонь і хату Марыі Раманаўны Койка. І ёй таварыства выдзеліла такую ж суму. Райвыканком таксама знайшоў магчымасць папоўніць сямейны бюджэт гэтых людзей. Ім аказана матэрыяльная дапамога па 500 тысяч рублёў кожнаму.

Такіх прыкладаў на Любаншчыне нямала. Кіраўніцтва сыркамбіната, рыбгаса сёлета пералічыла на рахунак таварыства па 100 тысяч рублёў. Дарэчы, рыбгас адпусціў па нізкай цане дзве тоны камбікорму. А калгасы «Чырвоная змена» і імя Калініна, як паведамляе раённая газета «Голас Любаншчыны», прадастаўляюць транспарт для дастаўкі яго са Слуцка і забяспечваюць захоўванне ў сваіх складскіх памяшканнях.

Для інвалідаў працуе абутковая майстэрня — са скідкай 50 працэнтаў кошту рамонту. Члены таварыства інвалідаў могуць наведваць бясплатна гарадскую лазню.

— Ёсць добрая задума стварыць разам з камбінатам будаўнічых матэрыялаў сумеснае аздараўленчае прадпрыемства «Каўчэг», у якім людзі з захворваннем на астму будуць праходзіць курс лячэння, — зазначыў старшыня праўлення раённага таварыства інвалідаў М.Кійко.



■ З першых вуснаў

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

## ДАЙЦЕ ЧАС — УТАЙМУЕМ І МАФІЮ

Не сакрэт, што папулярнасць у народзе цяперашні Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка набыў перш за ўсё як антыкарупцыйны дзеяч. Аднак у апошні час у яго адрас паступаюць папрокі, што ён, маўляў, не вельмі спяшаецца расправіцца з мафіёзнымі структурамі і нячыстымі на руку дзялкамі. Наперакор гэтаму ў час свайго знаходжання ў Бараўлянах прэзідэнт выказаў занепакоенасць тым, што сёння ў рэспубліцы з"явіўся «сіндром ворага». Маўляў, кожны ўпэўнены, што ўсе вакол злачынцы, акрамя яго, усюды трэба наводзіць парадак, акрамя яго ўласнага дома, рабочага месца.

«Так у жыцці не бывае», — канстатаваў прэзідэнт і падкрэсліў пры гэтым, што ад барацьбы з карупцыяй не адыдзе.

Створаны і працуе Камітэт па барацьбе з карупцыяй. Ёсць і першыя вынікі — вызвалены ад займаемых пасад і разжалаваны некаторыя прадстаўнікі генералітэту беларускай арміі. Не засталіся без прэзідэнцкай увагі, як высветлілася, і шыкоўныя катэджы, што выраслі вакол сталіцы. У прыватнасці, у тых жа Бараўлянах па даручэнню прэзідэнта прадстаўнікі органаў унутраных спраў сфатаграфавалі найбольш яскравыя ўзоры «палацавага дойлідства». Здымкі былі прад"яўлены ў мясцовы сельсавет на «апазнанне». Уладальніцай аднаго са шматпавярховых асабнякоў аказалася... бабулька — удзельніца Вялікай Айчыннай вайны, ёй 83 гады. І такія метамарфозы з падстаўнымі асобамі, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, назіраюцца вельмі часта. Але зноў-такі, каб навесці тут парадак, патрэбны час, людзі, сродкі.

Мы сёння падышлі да вырашэння гэтай праблемы, сказаў прэзідэнт. Але ў той жа час адзначыў, што арэх трэба раскалоць няпросты. Дае аб сабе знаць недастатковая актыўнасць сілавых міністэрстваў, пэўная пасіўнасць дзяржструктур, а з другога боку — згуртаванасць і нахабства тых, хто не ў ладах з законам, якія не грэбуюць нават пагрозамі сем"ям, дзецям.

Прэзідэнт падкрэсліў, што ў барацьбе з карупцыяй, мафіяй яму патрэбна шырокая народная падтрымка. Гэта стане галоўнай гарантыяй выкаранення зла.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Кантакты

## НА МАГІЛЁЎШЧЫНУ, ПА ВОПЫТ

Група старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў вобласці, якую ўзначальваў старшыня аблвыканкома А.І.Цішкевіч, пабывала ў ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга калгасе "Камінтэрн" Магілёўскага раёна. У апошнія гады тут напрацаваны станоўчы вопыт арганізацыі вытворчасці, па сутнасці ажыццёўлены пераход ад адміністрацыйна-камандных да эканамічных метадаў кіравання.

У ходзе знаёмства з гаспадаркай аграрныя кіраўнікі Мінпчыны змаглі ў гэтым пераканацца. Старшыня калгаса В.М.Міргарадскі, спецыялісты, кіраўнікі кааператываў, якія з"яўляюцца структурнымі падраздзяленнямі гаспадаркі, паказалі гасцям усё, што іх цікавіла.

Падчас падвядзення вынікаў паездкі перад яе ўдзельнікамі выступілі міністр сельскай гаспадаркі рэспублікі В.С.Ляонаў і старшыня аблвыканкома А.І.Цішкевіч.

Справаздача аб паездцы на Магілёўшчыну будзе надрукавана.

*Мікалай КАРОЛЬ.*

## ДАРАГІЯ ДЭПУТАТЫ

Як паведаміў старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах дэпутатаў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Абрамовіч, паводле папярэдніх разлікаў, на арганізацыю кампаніі па выбарах дэпутатаў у Саветы ўсіх узроўняў запатрабуецца 69 мільярдаў рублёў. Аднак, паводле некаторых даных, Міністэрства фінансаў урэзала гэтую суму да 52 мільярдаў. Выбары дэпутацкага корпуса будуць каштаваць намнога даражэй, чым выбары кіраўніка дзяржавы, на якія патрачана каля 6 мільярдаў рублёў. Дарэчы, нягледзячы на тое, што парламент не спяшаецца з разглядам Закона аб выбарах, Цэнтрвыбаркам ужо набыў найбольш дэфіцытны прадукт, неабходны пры яго правядзенні ў жыццё. Для друкавання агітацыйных матэрыялаў, бюлетэняў, справаводства ўжо закуплена 150 тон паперы.

Калі зыходзіць з матэрыяльных меркаванняў, то найбольш таннымі з"яўляюцца выбары па прапарцыянальнай сістэме — размеркаванне дэпутацкіх мандатаў сярод партый, якія выставілі сваіх кандыдатаў у прадстаўнічы орган, ажыццяўляецца ў адпаведнасці з колькасцю атрыманых імі галасоў. Мажарытарная сістэма — гэта калі выбраным лічыцца кандыдат, які атрымаў найбольшую колькасць галасоў у акрузе, і змешаная, па якой праводзіліся выбары ў Расіі, у фінансавых адносінах каштуюць намнога даражэй.

*БЕЛІНФАРМ.*

## З А Л А Т Ы Ю Б І Л Е Й

### адзначыла крупская сярэдняя школа № 2

У Крупках святкавалі залаты юбілей сярэдняй школы № 2. Яна дала пуцёўку ў жыццё амаль тром тысячам юных грамадзян, многія з якіх пазней сталі таленавітымі педагогамі і медыкамі, рабочымі і вучонымі. Гэта прафесар Новасібірскага універсітэта, доктар матэматычных навук Л.А.Бокуць, выкладчык Беларускай політэхнічнай акадэміі, доктар тэхнічных навук І.М.Каткоўская, дацэнт Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута, кандыдат фізіка-матэматычных навук У.С.Рубанаў, прарэктар Беларускага аграрна-тэхнічнага універсітэта, кандыдат тэхнічных навук В.І.Хадасевіч, начальнік аддзялення Маскоўскага навукова-даследчага інстытута мікрапрыбораў, доктар тэхнічных навук Г.М.Гуляковіч, загадчык аддзела Міністэрства аховы здароўя нашай рэспублікі У.В.Дуброўскі. Ды хіба ўсіх пералічыш. Дарэчы, кожны трэці педагог сённяшняй школы — таксама ўчарашні яе выпускнік. Менавіта ў гэтай школе пачынаўся шлях у вірлівае жыццё першакласніка Васіля Стражава, які сёння займае пасаду міністра адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь.

Да юбілею школы вучні і настаўнікі адшукалі адрасы былых выкладчыкаў і выпускнікоў, фотаздымкі, архіўныя дакументы. Афармілі альбомы, стэнды.

На фотакартках трыццаці-саракагадовай даўнасці былыя выпускнікі зноў убачылі сябе і сваіх аднакласнікаў маладымі, ва ўспамінах вярнуліся ў шчаслівую пару бесклапотнага дзяцінства. Прысутныя агледзелі выставы работ членаў школьнай студыі выяўленчага мастацтва і яе кіраўніка А.Г.Міхеева. Пазнавалі яны знаёмыя краявіды Крупшчыны на персанальных выставах палотнаў галоўнага архітэктара раёна С.А.Малюка і мясцовых мастакоў А.І.Гаміна, Ф.А.Сарокіна, С.Р.Навасардзяна. А ў школьным музеі народнай славы выпускніца першага выпуску Л.Е.Панкавец расказвала аб асабістай сустрэчы з адважнай патрыёткай Аленай Колесавай, якая ў гады Вялікай Айчыннай вайны была накіравана з Масквы на Крупшчыну для арганізацыі дыверсійна-падрыўной работы супраць фашыстаў. Школа носіць імя гэтай мужнай патрыёткі. Ёй пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Урачыстасці з нагоды залатога юбілею праходзілі на школьным стадыёне. Тэатралізаванае прадстаўленне пачалося шэсцем калоны былых выпускнікоў, якую завяршалі сённяшнія адзінаццацікласнікі. Пад гукі аркестра вынеслі сімвалы-атрыбуты навучальнай установы: флаг, герб і сімвалічны ключ, які былы дырэктар школы Р.М.Яфрэменка перадаў сённяшняму кіраўніку педкалектыву Д.Д.Караню. Упершыню прагучаў школьны гімн, напісаны былым выпускніком школы Юрыем Сарокіным на словы настаўніцы Л.І.Купрыянавай.

Шчыра і сардэчна віталі юбіляраў старшыня райвыканкома У.І.Хадасевіч і міністр адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь В.І.Стражаў, старшыня Крупскага гарадскога выканкома С.І.Дзідзенка, начальнік абласнога ўпраўлення адукацыі А.С.Новік, загадчык раённага аддзела адукацыі А.А.Зайцаў, прадстаўнікі працоўных калектываў, дэлегацыі Лагойскага раёна, былыя настаўнікі і вучні. Лепшым педагагічным работнікам былі ўручаны значкі «Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь», а таксама Ганаровыя граматы міністэрства, абласнога ўпраўлення і раённага аддзела адукацыі. На стадыёне былі наладжаны паказальныя выступленні юных спартсменаў.

Затым у актавай зале школы прайшло пашыранае пасяджэнне педагагічнага савета. На імправізаваную сцэну адзін за адным выходзілі былыя выпускнікі, успаміналі далёкія школьныя гады і сардэчна дзякавалі сваім настаўнікам за іх клопат і ўвагу, дабрыню і спагаду. І гучалі песні, якія спявалі разам настаўнікі і вучні...

Прыемна адзначыць і такую дэталь: сёння ў школе займаюцца 834 вучні, палавіна з якіх вучыцца на "4" і "5". Сённяшні калектыў гэтай школы працуе на заўтрашні дзень.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

*Надвор"е*

*Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае надвор"е, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра — 5 — 10, у Мінску — 7 — 9 градусаў цяпла.*

# ПРАФСАЮЗЫ: на вастрыні жыццёвых праблем

■ Прыватызацыя

## УВАРВАЦЬ АД ДЗЯРЖАЎНАГА ПІРАГА

**Выканком савета аб'яднання галіновых прафсаюзаў разгледзеў ход прыватызацыі і раздзяржаўлення ў вобласці і горадзе Мінску. Аднак гэта перш за ўсё клопат органаў улады. Якія адносіны да яе маюць прафсаюзы?**

**— Самыя непасрэдныя, — зазначае загадчык аддзела сацыяльна-эканамічнай абароны членаў прафсаюзаў савета аб'яднання М.П.ФІЛІПАЎ. — Змена форм уласнасці адчувальна закранае інтарэсы працоўных калектываў. Стаяць убаку — значыць, здраджваць членам сваіх пярвічных арганізацый, кідаць іх на волю лёсу.**

*— Што паказала ваша абмеркаванне на пасяджэнні выканкома?*

— Абласны і Мінскі гарадскі Саветы дэпутатаў летась у кастрычніку зацвердзілі праграму раздзяржаўлення і прыватызацыі (акрамя жылля і зямлі). Па кожнаму аб'екту прыватызацыі створаны рэзерв маёмасці ў размеры 50 працэнтаў яго ацэначнага кошту для перадачы грамадзянам на імянныя прыватызацыйныя чэкі. Згодна з праграмай, будзе прыватызавана дзве трэці балансавага кошту асноўных фондаў.

*— І колькі ўжо перайшло ў прыватныя рукі?*

— Па вобласці за чацвёрты квартал мінулага года і за сем месяцаў сёлетняга — 54 аб'екты. У абласны бюджэт паступіла 332,8 мільёна рублёў (у новым вылічэнні). Па Мінску прыватызавана 120 аб'ектаў. Выкарыстоўваюцца розныя спосабы прыватызацыі. Часцей за ўсё — пераўтварэнне дзяржаўных прадпрыемстваў у акцыянерныя таварыствы, выкуп маёмасці арэндным калектывам, продаж на аўкцыёнах і па конкурсу. Перш за ўсё гэта стратныя прадпрыемствы ўсіх галін народнай гаспадаркі, а таксама бытавога абслугоўвання насельніцтва, гандлю і грамадскага харчавання, прадпрыемствы, якія перапрацоўваюць сельгаспрадукцыю, а таксама незакончаныя будаўнічыя аб'екты.

Так, напрыклад, вытворча-камерцыйная фірма "Рапід" заплаціла 10 мільёнаў рублёў за склад бязводнага аміяку Любанскага райаб'яднання "Сельгасхімія", канцэрн "Амкадор" — 4,3 мільёна рублёў за маёмасць вытворчай базы па выпуску зборнага жалезабетону ў Смалявічах. За 500 мільёнаў рублёў прададзены недабудаваны блок прадпрыемстваў па мыццю бялізны і хімчыстцы ў мікрараёне Шабаны-2 пры стартавай цане 360 мільёнаў.

Да канца сёлетняга года мяркуецца давесці долю прыватызаваных прадпрыемстваў вобласці ў агульным кошце асноўных фондаў, якія падлягаюць раздзяржаўленню, да 20 працэнтаў. У аграпрамысловым комплексе яна складзе 25 працэнтаў, у гандлі, грамадскім харчаванні і бытавым абслугоўванні — 30.

Па Мінску гэтыя паказчыкі вышэйшыя. На сённяшні дзень раздзяржаўлена 26,2 працэнта камунальнай уласнасці, якая павінна прыватызавацца.

Намечана акцыяніраванне звыш 50 буйных прадпрыемстваў горада. У тым ліку аўтамабільны і трактарны заводы, аб'яднанні "Інтэграл", "Гарызонт" і шэраг іншых.

*— А як наконт жылля?*

— На першае верасня ў вобласці прыватызавана 17.138 кватэр (горад — 13.776, вёска — 3.362). Гэта складае 9,3 працэнта ад агульнага жыллёвага фонду. Па Мінску — каля 30 працэнтаў жылой плошчы ў дамах мясцовых Саветаў.

Увогуле, тэмпы раздзяржаўлення маглі быць вышэйшыя. Аднак з-за непаслядоўнай пазіцыі адпаведных урадавых органаў з вызначэннем індэксаў (каэфіцыентаў) змянення кошту асноўных фондаў прыпынена работа шэрагу дзяржаўных камісій па прыватызацыі.

У большасці выпадкаў усе пытанні пераходу на новую форму ўласнасці вырашаюцца з удзелам прафсаюзных камітэтаў. Яны ж не застаюцца ўбаку і пры размеркаванні прыбытку, распрацоўцы планаў развіцця вытворчасці.

*— На першым этапе прыватызацыі (1991—1992 гг.) стаўка рабілася на працоўныя калектывы, якія мелі пераважнае права на набыццё аб'ектаў, у асноўным праз арэнду. А ў прынятым летась у студзені законе акцэнт змясціўся ў бок так званай народнай (чэкавай) прыватызацыі. Толькі ніхто не ведае, як яе практычна ажыццяўляць.*

— Узаконены сцэнарый чэкавай прыватызацыі мае шэраг сур'ёзных недахопаў эканамічнага, палітычнага і тэхнічнага плана. Ён не дазваляе дасягнуць яе галоўных мэт — стварэння эфектыўнай эканомікі і сацыяльнасправядлівай змены форм уласнасці. Заканадаўчая база прыватызацыі складаная, заблытаная і супярэчлівая. У цэлым ход і механізм яе можна ахарактарызаваць як камерцыялізацыю прадпрыемстваў. Правільна ахрысцілі яе людзі: прыхватызацыя.

*— Ці не адсюль усе злоўжыванні? Новыя гаспадары перапрафіліруюць вытворчасць, здаюць яе ў арэнду іншым. Прадпрыемствы гандлю і грамадскага харчавання ператвараюцца ў казіно, більярдныя. Часам і людзей выкідваюць на вуліцу, як было ў швейным атэлье Дома быту па вуліцы Маскоўскай горада Мінска.*

— Там сапраўды ўсіх звольнілі. Маўляў, яны лішнія, паколькі аб'ект набывае фірма "Крысціна", якая займаецца перапродажам тканіны. Давялося ўмешвацца прафсаюзам і аднаўляць швачак на рабоце праз суд. На Барысаўскім заводзе аўтатрактарнага электраабсталявання, некаторых прадпрыемствах бытавога абслугоўвання і гандлю спрабавалі скасаваць прафсаюзныя арганізацыі. Нямала злоўжыванняў на тых фабрыках і заводах, дзе ствараюцца малыя ці сумесныя прадпрыемствы, у якіх працуюць сваякі і родныя кіраўнікоў гэтых калектываў.

*— Адным словам, карыстаюцца недасканаласцю нашых законаў і імкнуцца адкусіць ад дзяржаўнага пірага як мага большы кавалак. У нас заўсёды так — пачынаюць справу, не падмацаваўшы яе скрупулёзным аналізам: а што нам гэта дасць? Прыватызацыю трэба ажыццяўляць у сукупнасці з дэманапалізацыяй, структурнай перабудовай вытворчасці і яе рэканструкцыяй, аздараўленнем фінансава-крэдытнай і падатковай палітыкі. Без такога сістэмнага падыходу яна сама можа з'явіцца магутным дэстабілізуючым фактарам эканомікі.*

— У гэтых умовах павінна ўзрастаць і актыўнасць прафсаюзных арганізацый па абароне сацыяльна-эканамічных і працоўных правоў работнікаў прадпрыемстваў. Каб не дапускаць вялікіх пралікаў пры раздзяржаўленні, прафактыў імкнецца глыбей вывучаць заканадаўства па прыватызацыі. Узмацняецца роля калектыўных дагавораў і пагадненняў. Адна з важнейшых нашых функцый — актыўны ўдзел у вырашэнні пытанняў пераходу да недзяржаўных форм уласнасці. Прафсаюзы дабіваюцца абавязковага захавання прававых і сацыяльна-эканамічных гарантый для калектываў у адпаведнасці з заканадаўствам, прадастаўлення ім ільгот на набыццё акцый.

■ Охрана труда

## «ЗДОРОВЬЕ» БЕЗ ЗДОРОВЬЯ

**Еще совсем недавно утверждали, что самое дорогое в обществе — здоровье его граждан. И не случайно несколько лет тому назад в городе белорусских шахтеров была принята комплексная программа "Здоровье". Как она выполняется? Об этом рассказывает наш внештатный корреспондент Анатолий ПАНАСЕНКО.**

Об этом не раз шел разговор на заседаниях горисполкома. Держали ответ руководители ряда предприятий города. И многое из запланированного уже выполнено. Закончено строительство первой очереди газоснабжения Солигорского промышленного узла. В ближайшей перспективе газ поступит на предприятия, что особо важно для экологической обстановки на рудниках и фабриках. На него переведена городская котельная. Реконструируются городские очистные сооружения с увеличением их мощности. Проводится ряд других работ.

Большая часть мероприятий программы касалась производственного объединения «Беларуськалий», где условия и охрана труда оставляют желать лучшего. Калийщики уже несколько уменьшили вибрацию и запыленность рабочих мест на рудниках, запустили в работу импортные горнодобывающие комплексы по селективной выемке руды на Втором и Четвертом рудниках, отремонтировали копры в Первом и Третьем рудоуправлениях и т.д.

Отремонтированы бытовые помещения и передвижные бытовки в стройтресте № 3. Действуют вентиляционные системы в цехах литейно-механического завода «Универсал». Введен в эксплуатацию физкультурно-оздоровительный комплекс на народном предприятии «Калинка». Им пользуются не только его работники, но и другие горожане.

Специалисты городского центра гигиены и эпидемиологии отмечают, что спецодеждой, средствами индивидуальной защиты, предметами личной гигиены работники предприятий города обеспечены согласно отраслевым нормам.

Казалось бы, сделано немало. Вместе с тем говорить об успешной реализации программы «Здоровье» было бы неправильно. Многие мероприятия сорваны или сроки их выполнения затягиваются. Не введен в эксплуатацию новый бытовой корпус отделения грануляции на Третьей обогатительной фабрике, не смонтированы установки приточной вентиляции для подачи воздуха в кабины кратцер-кранов на Второй обогатительной.

— Оставляет желать лучшего, — говорит заместитель главврача центра гигиены и эпидемиологии Е.В.Сакович, — банное обслуживание населения города. Одной старой бани для Солигорска с его 100-тысячным населением явно мало.

Особую тревогу вызывает то, что невыполнение мероприятий программы «Здоровье» отражается на детях. Печально, но ни одно из предприятий, организаций города, имеющих детские дошкольные заведения, не строит загородных дач для летнего отдыха детей.

Начался новый учебный год, а в некоторых школах уровень искусственного освещения классов, спортзалов не отвечает гигиеническим нормативам. Хуже того, из-за отсутствия сантехоборудования, запчастей к нему в ряде средних школ не работают в полной мере туалеты, заглушены краны питьевой воды. Детсады и школы плохо снабжаются мылом, дезинфицирующими веществами.

В трудовых коллективах города разработаны и утверждены свои программы «Здоровье». К сожалению, во многих коллективах их держат « под сукном». Вызывает удивление позиция профсоюзных организаций. Кому, как не им, добиваться решения вопросов о создании благоприятных условий для членов профсоюзов — а ими являются все работники трудовых коллективов. Необходима заинтересованная, постоянная забота об укреплении здоровья трудящихся. Забывать об этом не должны ни руководитель предприятия, ни председатель профкома, ни рабочий. Здоровый человек — здоровое общество.



*Уладзімір БАКУНОВІЧ і Аляксандр ШЫЛА — выкладчыкі музыкі. Калі так, то пры чым тут малаток, зборка мэблі? Магчыма, іх скарацілі, і яны перакваліфікаваліся, пачалі сталярнічаць, зарабляючы сабе капейку?*

*Не. Па-ранейшаму яны праводзяць індывідуальныя заняткі па музыцы з навучэнцамі Мінскага педагагічнага каледжа. А гэтая работа, — "з малатком" — прыемна-вымушаная. Нядаўна каледж справіў наваселле ў новым трохпавярховым памяшканні. Вось музыканты разам з іншымі выкладчыкамі і збіраюць сталы, шафы і іншую мэблю для кабінетаў і класаў.*

Фота Анатоля БАСАВА.

## ДУМКІ ЎСЛЫХ

Сёння мала хто можа на сваю жабрацкую зарплату нармальна пракарміць не толькі сям"ю, а і самога сябе. Рознага роду эканамічныя рэформы, хаця і ставяць перад сабой мэту дасягнуць лепшага, аднак не ўлічваюць умоў, у якіх жывуць людзі. Сёння для большасці працуючых не хапае зарплаты нават на тое, каб аднавіць фізічныя сілы, затрачаныя на рабочым месцы. Яе мінімальны размер складае дзесятую частку ад кошту спажывецкага кошыка. І хто будзе адказваць за тое, што не выконваецца адно з асноўных палажэнняў Генеральнага пагаднення паміж урадам, прадпрымальніцкімі саюзамі і Федэрацыяй прафсаюзаў рэспублікі?

Усякая праца павінна быць аплачана справядліва. Незалежна ад таго, у якіх умовах мы жывём.

***

Раней аб ільготах маўчалі — каб не падрываць аўтарытэт В.Кебіча і яго ўрада. Цяпер новыя ўлады павялі атаку на прывілеі — умацоўваюць аўтарытэт А.Лукашэнкі, нашага Прэзідэнта.

Зразумела, тут трэба наводзіць парадак. Але ж нельга разам з вадой выплюхваць і дзіця. Бо пенсіянер пенсіянеру не раўня. Адзін атрымлівае 10 — 25 тысяч рублёў, а другі — 50 тысяч і болей. Дык навошта ўсіх пазбаўляць права бясплатнага праезду на прыгарадным аўтамабільным і чыгуначным транспарце?

***

Бацькі атрымліваюць зараз на дзіця ў сярэднім па 8 тысяч рублёў дапамогі ў месяц. Але ж сукенка на вучаніцу каштуе каля 7 тысяч, абутак — 8 тысяч, а за школьную форму для хлопчыка неабходна выкласці 24 — 28 тысяч. Якая ж гэта дапамога?

***

На сённяшнім этапе неабходна выпрацоўваць не першачарговыя меры па вываду эканомікі рэспублікі з крызісу, а канцэпцыю далейшага яе развіцця. Якое грамадства мы збіраемся будаваць — усталёўваць рынычныя адносіны ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі ці вярнуцца да кіравання прамысловасцю, планавага вядзення гаспадаркі? Адным словам, што мы хочам мець? Якраз гэтай ідэі і няма. Ніякая праграма па выхаду з крызісу не дапаможа, пакуль на ўзроўні ўрадаў і прэзідэнцкіх адміністрацый Беларусі і Расіі не будуць узгоднены эканамічныя адносіны на бліжэйшую перспектыву. Хаця б на 1995 год.

***

Эканоміка заўсёды вызначае палітыку. У нас жа палітыкі спрабуюць камандаваць эканомікай. Што з гэтага атрымліваецца, бачыць кожны.

***

Мы многае страчваем з-за нерацыянальнага выкарыстання дзяржаўнай уласнасці. У нас на сотні мільёнаў вытворчых плошчаў, камунікацый, цэлых ваенных гарадкоў. І гэты капітал застаецца без сапраўднага гаспадара. А можна ж на іх аснове ствараць дадатковыя рабочыя месцы, тым самым крыху зняць вастрыню беспрацоўя.

***

Па тэмпах росту цэн Беларусь уступае толькі Туркменіі і Казахстану. Затое сярэдняя зарплата складае 27 працэнтаў ад сярэдняй зарплаты расіян. Аб усім гэтым ведае Прэзідэнт. І ён абяцаў народу, што вераснёўскае павышэнне цэн будзе апошняе. А яны, насуперак гэтай заяве, усё растуць і растуць. Дык хто ж нам скажа, калі спыніцца гэты рост? І навошта даваць невыканальныя абяцанні?

***

Зараз грамадства знаходзіцца над духоўнай безданню. У людзей усё больш актыўна праяўляюцца чэрствасць, бяздушнасць, воўчыя інстынкты: ты не з"ясі — цябе з"ядуць. Эталонам становіцца жаданне любымі спосабамі разбагацець. Наш бог — яго вялікасць рубель. І мы не хочам прызнаваць, што сапраўдная культура, эрудыцыя і проста ўменне паводзіць сябе заўсёды застаюцца каштоўнымі ў любой краіне, з любым палітычным рэжымам і ўзроўнем эканомікі.

Адзін разумны чалавек сказаў: цяжка кіраваць народам, калі ў яго многа ведаў. Ці не адсюль карані нашай абыякавасці да праблем адукацыі, выхавання ў людзей высокіх маральных якасцей?

***

Мы павінны заўсёды памятаць: вучоба — не прамежкавы этап і ўжо тым больш не палітычная арэна, а сутнасць будучай работы, прафесіяналізм. А, значыць, і ў канчатковым выніку — узровень жыцця як кожнага з выпускнікоў, так і грамадства ў цэлым.

***

Ці задумваўся хто аб тым, навошта нам такая велізарная колькасць прамысловых прадпрыемстваў? Каму патрэбна прадукцыя, якую яны выпускаюць? У ЗША ў вытворчасці занята ўсяго толькі 30 працэнтаў працаздольнага насельніцтва, астатнія — у сферы паслуг. У нас жа наадварот.

***

Колькі б нам ні гаварылі аб тым, што беларускія тавары неабходны для расійскіх спажыўцоў, але рынак усё размяркоўвае па сваіх месцах. Будзе і Расія ствараць вытворчасці, аналагічныя нашым, будзе ўводзіць і мытныя бар"еры на шляху тавараў. Так, як робяць усе незалежныя дзяржавы.

Скажам, у ЗША і Канадзе большасць насельніцтва — англасаксы. Аднак там ніхто не крычыць аб брацкай дружбе паміж англасаксонскімі народамі, а мытныя бар"еры і пратэкцыянісцкія меры дзейнічаюць у абедзвюх краінах.

***

Стан эканомікі — гэта не стан заводаў і фабрык, а адносіны людзей да вытворчасці. Усё жыццё нам убівалі ў галовы, што трэба берагчы дзяржаўную маёмасць як сваю. Зараз эканамічная сітуацыя змянілася, аднак мы па-ранейшаму лічым усё агульнанародным. Значыць, нічыім. Таму як кралі, так і цяпер крадзём. Не мае. Наша, дзяржаўнае.

■ Супрацоўніцтва

## Не напрошваемся сілкам, аднак узаемная любоў усё ж лепш

**Навошта нам сёння прафсаюзы? Ад іх жа ніякай карысці. Раней хоць пуцёўку ў санаторый ці дом адпачынку выб'еш, па сацыяльнаму страхаванню пэўную суму атрымаеш. А зараз усё гэта забрала да сябе дзяржава. Адзінае, што застаецца, — на членскія ўзносы ўтрымліваць прафсаюзных чыноўнікаў-функцыянераў.**

Падобныя разважанні нярэдка можна пачуць у працоўных калектывах. Аўтарытэт прафарганізацый ідзе на спад.

— І тут у многім вінаватыя мы самі. Прафком дае згоду на звальненне работніка, а яго праз суд аднаўляюць на пасадзе. Судамі станоўча задавальняецца да 70 працэнтаў падобных іскаў. Не ўмеем ці не хочам дайсці да кожнага, зразумець яго клопаты і праблемы. Нават калі чалавек сам папросіць дапамогі, не заўсёды аказваем яе, спасылаючыся на адсутнасць рэальных магчымасцей, — такі прысуд вынеслі сабе старшыні райкомаў, гаркомаў і прафкомаў аграпрамысловага комплексу вобласці, якія сабраліся на семінар-нараду, каб абмеркаваць тактыку і стратэгію сваіх дзеянняў у сучасных умовах.

Дакладней, гэта была вучоба. Прысутныя разбіралі канкрэтныя канфліктныя сітуацыі і сумесна меркавалі, як правільна, па закону іх трэба вырашаць. Вялі размову аб больш эфектыўнай абароне правоў і інтарэсаў сваіх членаў. Аб тым, як дабіцца ўзаемаразумення з адміністрацыяй, што супрацьпаставіць ёй, калі тая парушае працоўнае заканадаўства... У канчатковым выніку ўсё зводзілася да аднаго — старшыні прафкомаў павінны дзейнічаць так, каб кожны чалавек зразумеў: і на даным этапе грамадска-палітычнага развіцця без прафсаюзаў не абысціся. У адзіночку немагчыма справіцца з усімі цяжкасцямі, якія абвальваюцца на нас.

Можа, і не варта было б засяроджваць увагу на гэтым семінары. Радавое ўнутрывытворчае мерапрыемства, без якога не абыходзіцца ні адзін калектыў. Аднак звяртаюся да яго вось па якой прычыне.

На семінары ўспомнілі пра Незалежны прафсаюз. Маўляў, не паспее ён правесці якую-небудзь акцыю, як тут жа праз газеты, радыё, тэлебачанне раззвоніць аб ёй на ўсю рэспубліку.

— Мы ж столькі робім, а пра нашы дзеянні маўчок. Горш таго, мы нічога не ведаем аб дзейнасці вышэйстаячых прафсаюзных органаў, — скардзіліся старшыні прафкомаў.

Прадстаўнікі Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі, савета аб'яднання галіновых прафсаюзаў вобласці заявілі, што адпаведная інфармацыя рассылаецца абкомам, у тым ліку і аграпрамысловаму.

Вось тут я і не вытрымаў, як зацікаўленая асоба спытаў: "А ці чытаеце вы "Мінскую праўду?" Азвалася некалькі чалавек.

— Мы сілком не напрошваемся вам у сябры і не прымушаем насільна браць у рукі нашу газету, — сказаў прысутным. — Але каб рабілі гэта, то большую частку вашых прэтэнзій вы тут не выказвалі б. Рэдакцыя па ўласнай ініцыятыве друкуе матэрыялы аб дзейнасці прафсаюзаў вобласці. Да таго ж раз у месяц выходзіць спецыяльная прафсаюзная старонка. Тым самым узнімаем ваш рэйтынг, аўтарытэт у вачах працоўных. А вы ж, аказваецца, не ведаеце аб гэтым. Згадзіцеся, тут патрэбна ўзаемная любоў. У нас ёсць аб чым пісаць, каго рэкламаваць. Камерцыйныя структуры гатовы выкласці любую суму, каб іх фірма праслаўлялася ў друку. Аднак "Мінская праўда" сваёй галоўнай задачай лічыць данесці да ўсіх уладных структур праблемы сельскіх працаўнікоў. Ды і самі добра ведаеце, як абіраюць аграпрамысловы комплекс, кампенсуючы яго затраты ў мізэрных долях. Дык давайце сумесна абараняць яго інтарэсы. Наладзім творча-дзелавое супрацоўніцтва. А яно прадугледжвае, каб "Мінская праўда" была ў кожнай вашай пярвічнай арганізацыі, у кожным прафкоме. Інакш няма ніякага сэнсу расказваць аб вашых справах, калі вы не зможаце прачытаць, што мы напішам пра вас. Атрымаецца дыялог сляпога з глухім. А мы ж маглі б замест матэрыялу пра ваш прафсаюз паставіць у нумар рэкламу (і нам патрэбна кампенсаваць велізарныя расходы, звязаныя з выхадам газеты). Падлічыце, колькі страчваем, калі на сённяшні дзень адзін квадратны сантыметр газетнай плошчы каштуе 3 тысячы рублёў.

Кіраўнікі абкома прафсаюза работнікаў АПК прылюдна заявілі, што яны за ўзаемавыгаднае дзелавое супрацоўніцтва. Думаецца, яны паклапоцяцца і аб тым, каб на "Мінскую праўду" падпісаліся ў кожнай пярвічнай прафарганізацыі, кожным прафкоме, шматлікія іх актывісты, як мага болей людзей. Мы павінны аказваць адзін аднаму ўзаемную падтрымку і дапамогу. Падпіску можна аформіць са снежня, а потым ужо — на новы год. Па сённяшніх мерках цана невысокая — усяго 1.200 рублёў на месяц.

Маем на ўвазе не толькі прафсаюз аграпрамысловага комплексу, а ўсе чатырнаццаць галіновых абкомаў, якія выходзяць на савет аб'яднання.

■ Зона асаблівай увагі

## Пад сваім сонцам
### Яно і грэе цяплей

Прыгожыя месцы пад Ракавам, і лепшых для адпачынку вы і не знойдзеце. З усіх бакоў карпусы акружаны лесам. Стромкія хвоі цягнуцца ўверх – іх звычайна называюць карабельнымі. Непадалёку – бурлівая рэчка. Паўсюдна цішыня і спакой, парушаемыя хіба толькі шчабятаннем птушак. Ягады, грыбы, вада і сонца – што яшчэ трэба чалавеку? Навошта нам заморскія курорты, поўдзень? Дома можна добра адпачыць, паправіць сваё здароўе. Невыпадкова тут "прапісаліся" аздараўленчыя дзіцячыя лагеры. Побач размясціліся "Верасок" і "Бярэзіна", "Купалінка" і "Парус", "Дарожнік" і "Світанак". І яшчэ "Дружба" Мінскага мясакамбіната.

Першыя два карпусы на 160 месц прынялі адпачываючых у 1990 годзе, а летась пабудавалі яшчэ тры. Цяпер тут могуць адпачываць у адну змену звыш чатырохсот чалавек. У асенне-зімовы перыяд, акрамя абслуговага персаналу, ніхто ў іх не пражываў. Абагравалі пустуючыя памяшканні, каб захаваць іх у належным стане, несучы пры гэтым немалыя страты. Цяпер зусім інакш.

Спрадвеку нашы дзіцячыя аздараўленчыя лагеры працуюць толькі ў летнія месяцы. У "Дружбе" і сёння звіняць дзіцячыя галасы.

– Як вам тут жывецца? – пытаемся ў дзяцей.

– Цудоўна, – чуецца дружны адказ.

– Гэта вучні 2, 3, 4-х класаў сярэдняй школы №39 горада Гомеля, – удакладняе дырэктар "Дружбы" Г.У.Каліноўская. – Прыехалі на месяц са сваімі настаўнікамі. Адпачываюць і адначасова вучацца. З нашага боку да іх асаблівы падыход. Гэта ж дзеці, пакрыўджаныя лёсам. Як не шкадаваць – шанаваць іх!

Вось і імкнуцца работнікі "Дружбы" стварыць для іх дамашнія ўмовы, і нават яшчэ лепшыя, – і ў харчаванні, і ў аздараўленча-культурным плане.

Для дзяцей багатае і разнастайнае меню. Вельмі смачныя, каларыйныя першыя і другія стравы, халодныя закускі. Пірожныя, пульхныя булачкі – пальчыкі абліжаш. А марожанае...

Усё выпрабляецца і гатуецца тут, на месцы, Святланай Данілевіч, Любай Пшанко, Святланай Улас, Аленай Сарычавай і іншымі работнікамі кухні і кулінарнага цэха пад кіраўніцтвам шэф-повара Анжэлы Далідовіч. На стале круглы год – дыні, апельсіны, яблыкі, іншыя фрукты і агародніна.

Культурарганізатар Інеса Падуновіч разам з настаўнікамі не дае сумаваць дзецям. Да іх паслуг бібліятэка, настольныя і бізнес-гульні. Адзначаюцца дні імянінніка. Нямала вясёлага шуму-гаму выклікае пошук у лесе салодкага скарбу – цукерак, спецыяльна прыгатаваных тартоў ці пірожных. Прадугледжаны і абавязковы выезд у мінскія тэатры і цырк, на канцэрты, экскурсіі па беларускай сталіцы.

У "Дружбе" ажыццяўляецца круглагадовае аздараўленне чарнобыльскіх дзяцей. Летам прымаецца да 340 чалавек, у асенне-зімовы перыяд – да 250. Аднак і сваіх, мясакамбінатаўскіх, не крыўдзяць. Усе жадаючыя атрымліваюць пуцёўкі. Працуюць у тры змены. А заняцца ўшчыльную чарнобыльцамі вымусілі абставіны.

Вятры перамен у сацыяльна-эканамічным жыцці грамадства не абмінулі і Мінскі мясакамбінат. Праўда, як і ўсіх, не з лепшага боку. Папаў і ён у нялёгкае фінансавае становішча, ледзьве зводзіць канцы з канцамі. Чаму – аб гэтым ужо столькі гаворана-перагаворана. Аднак на прадпрыемстве не паспяшаліся закрыць свой дзіцячы лагер, як нерэнтабельны. Знаходзілі сродкі на яго ўтрыманне. І тыя тры спальныя карпусы, уведзеныя летась у эксплуатацыю, – сведчанне клопату аб дзецях сваіх работнікаў. Разумеюць там: зняць у бацькоў галаўны боль аб летнім адпачынку рабят, – значыць, захаваць у іх хоць пэўную частку добрага настрою. А гэта станоўча адаб'ецца на вытворчасці.

– Не маглі ж мы пастаянна хадзіць з працягнутай рукой, – гаворыць Ганна Уладзіміраўна. – Адміністрацыя знаходзіла для нас грошы. І прафсаюз даплачваў больш палавіны кошту пуцёвак, цана якіх пастаянна расла: на добрых 30 працэнтаў яна павышалася дзякуючы няспыннаму падаражанню энергарэсурсаў. Але ж і ў нашых спонсараў не безразмерная каса. Вось і вырашылі па-гаспадарску распарадзіцца сваім бясцэнным капіталам – прыродай. Паглядзіце яшчэ раз, якія ў нас цудоўныя месцы. А мы толькі і гаворым аб аздараўленні чарнобыльскіх дзяцей за мяжой: ах, як там добра, якія там умовы! Хто толькі не імкнецца адправіць туды свае групы, выбіваючы валюту, якой і так мала ў дзяржаўным бюджэце.

– А ці не здаецца вам, Ганна Уладзіміраўна, што гэтая зацікаўленасць з боку дарослых абумоўлена не высакародным жаданнем дапамагчы пацярпеўшым, а ўласнымі інтарэсамі – за чужы кошт пабываць у замежных краінах? Часам у групах больш суправаджаючых, чым дзяцей. І не заўсёды яны – тыя, за каго іх выдаюць. Успомніце скандалы, калі начальства і іншыя, якія маюць да гэтага дачыненне, пасылалі туды сваіх нашчадкаў.

– Няхай суддзёй ім будзе іхняе сумленне. Мяне ж хвалюе на даны момант іншае. На тэрыторыі нашага лагера знаходзіцца недабудаванае бамбасховішча плошчай 850 квадратных метраў. Грэх не скарыстаць яго. Вось і думаем пераабсталяваць яго пад фізкультурна-аздараўленчы комплекс. Інстытут "Мінскграмадзянпраект" ужо распрацаваў праектна-каштарысную дакументацыю. Прадугледжваюцца дзве сауны, басейны, душавыя, масажныя кабінеты, трэнажорная зала, пакоі адпачынку. І нават спелеакабінет.

Як бы разнастаілі ў "Дружбе" аздараўленне дзяцей з уводам комплексу! Аднак праект пакуль што захоўваецца ў шафе. Няма грошай. Сваіх даходаў не хапае. Мясакамбінат таксама не мае лішняга рубля. І ў складчыну ўзяцца за аб'ект не знаходзіцца ахвотнікаў. А работ там – кот наплакаў. Згодна з праектам, на будаўніцтве патрэбна заняць максімум 12 чалавек. Яны за 7,5 месяца, не спяшаючыся, выканаюць усе работы.

Выказвалася крамольная думка: хаця б невялікую частку валюты, што расходуецца на адпраўку дзяцей за мяжу, накіроўваць сюды, пад Ракаў. Навошта нам чужое сонца, калі і пад сваім можна набрацца сіл і здароўя? І ўсё ж цягне нас туды, у далёкія краіны. Як дарослых, так і дзяцей. Тыя ж другакласнікі, якія адказалі нам, што ім жывецца-адпачываецца ў "Дружбе" цудоўна, падумаўшы, дадалі: "А за мяжой – лепш. Там што-небудзь можна купіць". А мы гаворым, што роднае сонца грэе цяплей...

Старонку падрыхтаваў Пётр СІДАРОВІЧ.

■ Кампетэнтны субяседнік

*Уладзімір Крыловіч:*

# "ПСТРЫКНУЛІ ПА НОСЕ" КАМЕРСАНТА, АДКРЫЛІ ДЛЯ БЕЛАРУСІ ШВЕЙЦАРСКУЮ ФІРМУ"

**Неяк у адной з газет трапіла на вочы заметка. Аб тым, як мільянер ператварыўся ў ... чысцільшчыка абутку і зарабіў немалыя грошы. "Гэта быў сімвалічны акт,— заявіў ён потым,— якім я жадаў даказаць, што індустрыяльная Германія мае нявыкарыстаныя рэзервы ў сферы абслугоўвання".**

**Начальніку ўпраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва аблвыканкома Уладзіміру Анатольевічу КРЫЛОВІЧУ "апранацца ў робу" чысцільшчыка не давялося. Аднак і ён прытрымліваецца падобнай, "мільянерскай", пазіцыі: тая ж сітуацыя і ў нашай, не такой ужо і індустрыяльнай, Беларусі:**

— Ведаеце, колькі разоў сёлета пераглядаліся цэны на цырульніцкія паслугі? Чатыры. Да таго ж, з абласнога бюджэту наша ўпраўленне не атрымлівае ні капейкі. Каравул крычаць? Мы выбралі іншы шлях: навучыліся супрацоўнічаць з банкамі, зрабілі стаўку на тэхнічны прагрэс.

Ганарымся тым, што адкрылі для Беларусі швейцарскую вязальную машыну "Пассап-электронік 6000". Гэта — цуда-агрэгат. У яго электронную памяць уведзена звыш 660 малюнкаў, камбінуючы якія, няцяжка стварыць новыя варыянты. Гэта першая вязальная машына, што вырашыла праблему павелічэння памераў узораў. Можна накласці некалькі малюнкаў адзін на адзін — і атрымаць фантастычны трох ці чатырохколерны эфект. Уявіце сабе: вы падстаўляеце машыне далонь — і яна вывязвае адпаведны ўзор. Ды што я вам тут распавядаю: з"ездзіце, скажам, у Жодзінскі гарадскі камбінат бытавога абслугоўвання, самі ўбачыце прыгожыя арыгінальныя вязаныя кофтачкі, світэры. Прадбачу ваша пытанне: маўляў, ці не мільён кожны з іх каштуе? Ды нічога падобнага — 30-50 тысяч "зайчыкаў".

"Пассап-электронік 6000" устаноўлены на 14 нашых прадпрыемствах: у Валожынскім, Капыльскім і Стаўбцоўскім раённых камбінатах бытавога абслугоўвання, на Маладзечанскай і Слуцкай фабрыках па пашыву і рамонту адзення і г.д.

Стварылі мы і спецыяльны тэхнічны цэнтр. Яго паслугамі па рамонту, набыццю запчастак, абучэнню працы на "Пассап-электронік 6000" карыстаецца ўся рэспубліка. Дарэчы, так зарабляем не толькі прэстыж, але і грошы.

Работнікі нашага ўпраўлення ўжо пераканаліся ў простай ісціне: варта толькі пачаць праяўляць ініцыятыву, весці пошук — нітачка сама пацягнецца. Мы нядаўна ўхітрыліся "пстрыкнуць па носе" аднаго камерсанта. Прапанаваў ён нам ручныя машынкі для стрыжкі валасоў. Па 125 дойчмарак штука. Што і казаць, такіх машынак у цырульнікаў пакуль недастаткова. Але не сталі мы хапацца за гэтую прапанову абедзвюма рукамі. Правялі "разведку боем". Выйшлі на замежную фірму-вытворцу. Вынік: закупілі 1.000 машынак па больш прымальнай цане.

У немцаў набылі 10 кецельных машын — для апрацоўкі швоў у вырабах. Раней даводзілася задавальняцца тэхнікай Падольскага завода. Але яна не адпавядала сучасным патрабаванням. Нямецкія машыны на камбінатах бытавога абслугоўвання за лічаныя дні апрацавалі прадукцыю, што чакала сваёй чаргі месяцамі.

***— Аднак народ наш карыстаецца паслугамі бытавікоў усё радзей. Самі рамантуюць прасы, самі стрыгуцца...***

— Што ёсць, тое ёсць. Сёння прадпрыемствы службы быту Міншчыны аказваюць насельніцтву 18 групавых відаў паслуг. Самыя прыбытковыя з іх: вытворчасць трыкатажу /дае 20 працэнтаў аб"ёму/, швейных вырабаў. Прыносяць людзі і абутак рамантаваць. Мы фактычна манапалісты ў сферы аказання рытуальных паслуг.

А вось воўну на расчэсванне здаваць перасталі. Яно і зразумела: змяншаецца пагалоўе жывёлы, у людзей хапае іншых турбот. Па-ранейшаму "гінуць" пральні. Не так даўно іх было ў вобласці 300. Засталося 21. У калгасах і саўгасах яны закрыліся практычна ўсе. А памятаеце, як мы горда рапартавалі, маўляў, вось і ў гэтай гаспадарцы адкрылі лазнева-пральны камбінат? Я думаю, варта тут адзначыць, што ўсё ж мыць бялізну ў пральні танней, чым дома. Ведаю гэта дакладна, бо мы праводзілі адпаведны падлік.

Цяжкае становішча з пракатам.І тут не абыходзіцца без сацыяльных казусаў. Бярэ чалавек напракат тэлевізар — і едзе ў суседнюю суверэнную дзяржаву. Судзімся, завялі шмат судовых спраў.

"Наказалі доўга жыць" і многія комплексныя прыёмныя пункты, якія абслугоўвалі сяльчан. Засталося іх 340 з 647.

***— Вы нічога не сказалі пра цырульні.***

— Падзенне жыццёвага ўзроўню насельніцтва адбіваецца і на іх. А розныя формы ўласнасці, на жаль, не стварылі сапраўднай канкурэнцыі ў гэтай сферы. Узровень абслугоўвання кліентаў зніжаецца, скарачаюцца сетка цырульняў, рабочыя месцы. У гарадах вобласці працуе 114 цырульняў /было 118/. У вёсках са 121 засталіся толькі 60. Менш стала і майстроў цырульніцкай справы: было 1.112, сёння — 745. З іх 218 — прадпрымальнікі /29 працэнтаў/. З-за адсутнасці сродкаў прадпрыемствы і прадпрымальнікі не могуць набыць машынкі для стрыжкі валасоў, фены, фарбавальнікі, бялізну.

І ўсё ж лічу, што ў прадпрымальнікаў менавіта ў цырульніцкай справе больш светлыя перспектывы. У іх — большы спектр магчымасцей. Яны могуць улічваць сацыяльныя аспекты, устанаўліваючы розныя цэны для маламаёмных кліентаў і для бізнесменаў. Вось вам і канкрэтны прыклад.

Малое прадпрыемства "Салон прыгажосці" ў г. Маладзечна ў першым квартале 1993 года было на мяжы закрыцця. Памяшканне выкупіў філіял Віцебскага камерцыйнага банка. Пасля капітальнага рамонту ў канцы чэрвеня гэтага года цырульня адкрылася. Сёння яна — адна з лепшых у горадзе. Набыты 6 новых ручных машынак для стрыжкі валасоў, цялежкі для захоўвання інструментаў, машыны для ачысткі бялізны ад валасоў. Усё — за кошт банка. Сучасны інтэр"ер і рэклама, культура абслугоўвання вабяць многіх кліентаў.

***— Дык, можа, варта ўсе службы быту "перавесці" ў прыватнікаў?***

— Такі падыход быў бы няправільны. Сёння паспяхова працуюць і дзяржаўныя цырульні. А наша ўпраўленне імкнецца скаардынаваць работу прадпрыемстваў розных форм уласнасці — у інтарэсах насельніцтва. Так, плануем у лістападзе правесці для ўсіх цырульнікаў абласны семінар. З выставай-продажам парфумна-касметычных прэпаратаў. Рыхтуем інфармацыйныя матэрыялы, дапамагаем набываць тэхніку, інструменты.

Нядрэнна працуюць і многія дзяржаўныя камбінаты бытавога абслугоўвання. 82 мільёны рублёў страт меў яшчэ нядаўна той жа Жодзінскі гарадскі камбінат бытавога абслугоўвання. Цяпер ён — у лідэрах. У многім дзякуючы прафесіяналізму, смеласці ў рабоце з крэдытамі яго дырэктара Ніны Іванаўны Савасцеевай. Яна не баіцца гандляваць сваёй прадукцыяй, супрацоўнічаць з партнёрамі з блізкага замежжа. Тое ж магу сказаць і пра дырэктараў раённых камбінатаў у Любані і Мінскім раёне — Барыса Васільевіча Плешавеню і Вілію Іванаўну Манохіну.

Зусім іншая справа там, дзе кіраўнікі адстаюць ад патрабаванняў часу, заціснуліся ў нейкія рамкі. Гэта ў першую чаргу тычыцца Бярэзінскага, Дзяржынскага, Клецкага і Старадарожскага РКБА.

А ў цэлым я б не сказаў, што сітуацыя ў сферы бытавога абслугоўвання вобласці — абвальная. За першае паўгоддзе 1994 года мы мелі 4,4 мільярда рублёў прыбытку /у дэнамінацыйных цэнах/. І калі па выніках работы за шэсць месяцаў у нас было 6 стратных прадпрыемстваў, дык цяпер толькі 4.

*Інтэрв"ю правяла Наталля ТУМАР.*

# У ПОШУКУ СВАЙГО "Я"

## Менавіта так можна ахарактарызаваць дзейнасць педагогаў смалявіцкай СШ № 1

Светлай раніцай стаяў я ля смалявіцкай сярэдняй школы № 1. Побач праносіліся цягнікі. Таварныя і пасажырскія. Чамусьці хацелася параўнаць іх са школай. Цягнікі заўсёды адпраўляюцца ў далёкі, не заўсёды лёгкі, але такі прывабны сваёй нязвыкласцю шлях — ад станцыі да станцыі. Ёсць такія станцыі і ў школы. Гэта — выпускі. Смалявіцкая сярэдняя № 1 рыхтуецца да свайго 70-годдзя. І няцяжка ўявіць, колькі юнакоў і дзяўчат, гледзячы ў светлыя вокны сваёй школы, гаварылі: "Бывай! Ды не назаўсёды".

І яны вярталіся, бо працавалі тут творчыя педагогі. Адзін з іх — былы прэзідэнт АН рэспублікі Васіль Феафілавіч Купрэвіч, доктар біялагічных навук. Менавіта з гэтай школы пачыналіся яго першыя прыступкі ў свет вялікіх адкрыццяў.

Але вернемся да сённяшняга дня школы. І цяпер тут людзі працуюць з натхненнем, сваёй духоўнай шчодрасцю жывяць маладыя душы, клічуць да новых і новых "станцый" на бясконцай дарозе пазнання. Прызнаюся, мне пашанцавала прысутнічаць у гэтай школе на творчай справаздачы настаўнікаў. Многія з гасцей — а гэта былі прадстаўнікі ўсіх навучальных устаноў раёна — у літаральным сэнсе кінуліся на адкрыты ўрок у шостым класе педагога Л.І.Агарэлавай.

— Такую магчымасць нельга ўпусціць. Гэта ж карыфей у выкладанні англійскай мовы, — гаварылі госці.

Гутару з Ларысай Іванаўнай.

— Я закончыла Мінскі інстытут замежных моў (цяпер — лінгвістычны універсітэт). Гэта было ў 1969 годзе. У сярэдняй школе № 1 працую 14 гадоў. Сама я — смалевічанка, — распавядала жанчына.

Дарэчы, школа — з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы. І высока трымае сваю марку. У мінулым годзе гэтая навучальная ўстанова прадставіла сваіх вучняў на абласную алімпіяду па замежнай мове, у якой прымалі ўдзел навучэнцы каледжаў і спецшкол. Смалевічане заваявалі агульнае пятае месца.

Выпускнікі Ларысы Іванаўны працуюць на адказных участках. Андрэй Макаўчык і Мікалай Барысевіч — у Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь. А Вольга Марусіна прадстаўляе нашу краіну ў Ісландыі.

Нярэдка на адрас Л.І.Агарэлавай прыходзяць пісьмы з Каліфорніі. Там вучыцца яе выхаванец Ігар Шмідт. Адбор быў вельмі строгі, але юнак паспяхова пераадолеў усе тры туры конкурсу. На кожны ездзіла і Ларыса Іванаўна, каб пабалець за хлопца. Сёлета Мінскі лінгвістычны універсітэт з адзнакай закончыла дачка настаўніцы Кіра. Марыць там вучыцца і малодшая дачушка Вольга.

Сёлета ў школе адбыўся першы выпуск класа з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы. Яго па праву назвалі зорным: юнакі і дзяўчаты атрымалі 14 залатых і 8 сярэбраных медалёў. Т.Лемеш паступіла на англійскае аддзяленне, а Н.Шмыга — на кітайскае — вышэйшых навучальных устаноў. Спраўдзілася мара і выпускнікоў Аксаны Кісловай і Іры Кастранковай вучыцца ў ВНУ. Дарэчы, многія былыя вучні СШ № 1 трапляюць туды без экзаменаў — яны заваёўваюць першыя месцы на абласных алімпіядах.

У Л.І.Агарэлавай — адзін з лепшых вучэбных кабінетаў.

Творча працуе і школьная кафедра матэматыкаў. На яе базе праходзяць заняткі раённай школы маладога спецыяліста. Педагогі М.А.Аліферка, Л.А.Толкач, П.Г.Яблонскі маюць вышэйшую катэгорыю.

— Вучні не могуць не любіць матэматыку. Шмат навук існуе на Зямлі, усе яны так ці інакш звязаны адна з адной. Нельга займацца хіміяй, не ведаючы фізікі, біялогіяй — не ведаючы хіміі, геалогіяй — не ведаючы біялогіі. Але ёсць адна навука, без якой немагчыма ніякая іншая. Гэта — матэматыка. Яе паняцці, сімвалы з"яўляюцца той мовай, на якой размаўляюць, пішуць і думаюць іншыя навукі, — пачуў я ад Пятра Герасімавіча Яблонскага.

Колькі ў гэтых словах гордасці за сваю прафесію! А выбраў яе вясковы хлопец з Валожыншчыны больш як 30 гадоў таму назад. На апошнім курсе сённяшняга Беларускага педагагічнага універсітэта быў, калі накіравалі ў гэтую школу: не хапала матэматыкаў. Дыпломную работу абараняў пасля заняткаў у школе.

Прыязджаюць настаўнікі ў першую смалявіцкую і на ўрокі выкладчыцы роднай мовы і літаратуры Ніны Іванаўны Шабан. Яе ўрокі — урокі сітуацый, над якімі трэба добра паразважаць, а не звыклы набор пытанняў і магчымых адказаў. І таму галоўнае на яе занятках — духоўнае ўзбагачэнне вучняў. Вобразна кажучы, яе залаты ключык — ва ўроках-дыялогах, якія праходзяць без змушанасці і зададзенасці, без замаруджанай уступнай часткі.

Нярэдка педагогаў школы-юбіляра можна бачыць у абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. Не ў якасці слухачоў іх туды выклікаюць, а ў якасці выкладчыкаў. Вялікаму караблю — вялікае плаванне.

І яшчэ. Прадстаўнікі СШ №1 заўсёды прымалі ўдзел у абласным конкурсе "Настаўнік года". Першую сцяжынку туды праклала выкладчыца рускай мовы і літаратуры К.Ф.Макаўчык. Яна спачатку заваявала права стаць лепшым педагогам раёна, а потым і на вобласць рызыкнула сябе паказаць, была названа адным з лаўрэатаў. Па выніках конкурсу "Настаўнік года-91" Клаўдзіі Фёдараўне прысвоена званне "Выдатнік народнай адукацыі". А праз год пасля таго ў першую дзесятку на такім жа конкурсе трапіла і настаўніца англійскай мовы, этыкі і псіхалогіі сямейнага жыцця Н.І.Кардзяк. Характэрныя рысы гэтай жанчыны — любоў да дзяцей, прафесійнае веданне прадмета, умелае выкарыстанне перадавога вопыту, неардынарнасць мыслення, выніковасць навучання. Усё гэта, прадумана спалучанае, і прыносіць поспех. Пачаліся баталіі за права прыняць удзел і ў конкурсе "Настаўнік года-94". Перакана588ы, што і на гэты раз у смалявіцкай сярэдняй школе № 1 запаляцца новыя "зоркі" на педагагічным небасхіле.

У дзень творчай справаздачы нас запрасілі на заняткі па абслуговай працы. Мы там убачылі каля 50 мадэлей адзення: дамашняга, для адпачынку, рабочага. Падумалася, што нейкая фірма прывезла на продаж.

— Гэта прадукцыя дзяцей. Настаўніца матэматыкі Ала Адольфаўна Казлоўская і студэнтка-завочніца, будучая настаўніца беларускай мовы і літаратуры Надзея Іванаўна Злобіч маюць вельмі ўмелыя, проста залатыя рукі. Дзякуючы ім школьнікі навучыліся шыць, пячы, вязаць, вышываць. Вось якімі талентамі надзелены нашы настаўнікі-прадметнікі, — растлумачыла дырэктар школы Людміла Аляксандраўна Лемеш.

Слухаў кіраўніка і ніяк не мог адагнаць ад сябе ўспаміны пра той час, калі функцыянеры ад адукацыі наладжвалі паездкі за тысячы кіламетраў, а потым з высокіх трыбун выхваляліся: "Мы былі ў Шаталава, сустракаліся з Аманашвілі, вывучылі вопыт Лысенкавай..." І няўцям было гэтым верхаглядам, што ёсць цудоўны педагагічны вопыт у сваім раёне, сваёй вобласці. Скажам, у той жа першай смалявіцкай, у чым я пераканаўся, калі быў на пазакласным мерапрыемстве ў трэцім класе настаўніцы Таццяны Сяргееўны Калтовіч. Яно называлася "Свята фарбаў". А праходзіла па сцэнарыю казкі, якую напісала яна сама. Стваралася ўражанне, што перад дзецьмі выступае прафесійная артыстка. Гэта быў не ўрок, а казачнае дзейства, у якім удзельнічаў кожны вучань класа.

У гэтым пераканаўся, калі прысутнічаў на факультатыўных занятках па псіхалогіі ў 10-м класе, калі ў актавай зале глядзеў спектакль "Прымакі". Прытым гэта былі не зусім тыя, купалаўскія. Настаўніца роднай мовы і літаратуры Н.І.Шабан ажыццявіла пастаноўку з ухілам на сучаснасць, на характары і паводзіны сённяшніх людзей. Ролі выконвалі настаўнікі, якія за гадзіну да канцэрта праводзілі ўрокі. Вяртаўся са спектакля прасветлены, духоўна ўзбагачаны. І яшчэ доўга сам сабе задаваў пытанне: "Чаго ў гэтых людзей больш — педагагічнага ці артыстычнага?" Кажуць, тым і моцны настаўнік, што ўмее ўсё. Загляніце ў смалявіцкую СШ № 1 — самі пабачыце.

На чыгуначны прыпынак крочыў сцяжынкай, атуленай дрэвамі. За спінаю адазваўся школьны званок, наперадзе абуджаў наваколле сігнал цягніка. Было ў гэтым зліцці гукаў нешта сімвалічнае.

*Уладзімір КОБРЫН.*

# БУЙНЕЙШЫ НАВУКОВЫ ЦЭНТР РЭСПУБЛІКІ

Беларускі навукова-даследчы інстытут эксперыментальнай ветэрынарыі імя Вышалескага цяпер з"яўляецца буйнейшым навуковым цэнтрам рэспублікі. Тут вядуцца даследаванні па ўсіх асноўных раздзелах ветэрынарнай навукі. У інстытуце сфарміраваліся навуковыя напрамкі па вірусалогіі, мікрабіялогіі, ветэрынарнай санітарыі, лейкозу. Створана 19 навукова-даследчых лабараторый.

Сёння вялікую важнасць набываюць распрацоўкі, якія дазваляюць весці на належным узроўні барацьбу з хваробамі жывёлы. Як зазначылі ў гутарцы супрацоўнікі інстытута, у 1995 годзе для рэалізацыі ў ветэрынарнай практыцы будзе прадстаўлена каля 30 распрацовак. Яны накіраваны на ўдасканаленне метадаў дыягностыкі і лячэння, а таксама прафілактыкі інфекцыйных і незаразных хвароб буйной рагатай жывёлы, свіней, птушкі, пчол, рыб, пушных звяроў. Навукова-тэхнічны ўзровень большасці распрацовак адпавядае замежным аналагам, што дазволіць пры неабходных аб"ёмах вытворчасці адмовіцца ад значнай часткі імпартных ветэрынарных прэпаратаў, якія сёння не па кішэні гаспадаркам.

Для павышэння эфектыўнасці работы па ўкараненню распрацовак у сельскагаспадарчую вытворчасць у інстытуце створана эксперыментальная база, дзе адпрацоўваецца тэхналогія вырабу біялагічных і хімпрафілактычных прэпаратаў.

Шмат увагі ўдзяляюць спецыялісты і такой хваробе жывёлы, як лейкоз.

— У лабараторыі лейкозаў працуюць 7 чалавек, — гаворыць яе загадчык Анатоль Драгун. — Па магчымасці імкнёмся аказваць дапамогу ўсім, хто да нас звяртаецца. Кроў на аналіз прывозяць з усіх абласцей рэспублікі, нягледзячы на дарагі бензін. Вось нядаўна атрымалі вялікую партыю крыві на пробу з Гродзенскай вобласці. Людзі просяць пераправерыць. Мы свайго роду апошняя інстанцыя.

*Юрый ЛОЙКА.*

*НА ЗДЫМКУ: чарговыя пробы крыві паступілі на аналіз. Яго праводзіць Анатоль **Драгун.***

*Фота Аляксандра РУЖЭЧКІ.*

# 50 РАЗВІТАЛЬНЫХ ЗВАНКОЎ

Нядаўна над стадыёнам СШ №2 у Лагойску залунаў сімвалічны сцяг. Ганаровае права ўзняць яго было дадзена групе былых выпускнікоў, якія разам з атэстатам атрымалі залатыя медалі. Урачыстасць была прымеркавана да 50-годдзя сярэдняй школы №2. За гэты час яе закончыла каля дзвюх тысяч чалавек. На свята змаглі прыехаць каля 150 былых выпускнікоў. Успамінам, як кажуць, не было канца, многія даўно не бачыліся, працуюць у розных сферах. Кандыдат філасофскіх навук Сяргей Сяргееў — першы сакратар Міністэрства замежных спраў рэспублікі, намеснік загадчыка аддзела міжнародных арганізацый. Школу ён закончыў у 1963 годзе. Анатоль Шаркаў загадвае кафедрай Рэспубліканскай акадэміі міліцыі, у мінулым вядомы спартсмен. Няма магчымасці пералічыць усіх тых, хто з'яўляецца гордасцю школы. Цёплыя словы ўдзячнасці выказаў педагагічнаму калектыву старшыня райвыканкома М.А.Крэсік. Уручана школе Ганаровая грамата Міністэрства адукацыі і навукі Рэсспублікі Беларусь. Такую ж узнагароду атрымалі дырэктар школы З.П.Карповіч і настаўніца В.А.Барысавец.

Шыварат-навыварат

# ДЫШАЛЬ АД ДОЎГАЛЯ

Мы ўжо не слухаем абяцанак пра светлую будучыню. Ставім задачу больш празаічную: пабудаваць прававую дзяржаву. І адрапартаваць аб узвядзенні хаця б падмурка чарговай «вялікай будоўлі» мы, думаецца, зможам толькі тады, калі забудзем наш класічны крылаты выраз: «Я начальнік — ты дурань, ты начальнік — я дурань».

У калгасе «Слабодскі» Старадарожскага раёна гэты дыктатарскі лозунг «здымаць з узбраення», здаецца, і не думаюць. Ва ўсякім выпадку — старшыня Л.М.Доўгаль. Асабліва падабаецца яму частка выразу: «Я начальнік...» Таму, калі ў Леаніда Міхайлавіча атрымаўся канфлікт з галоўным аграномам В.У.Біруком, ён закрычаў:

— Прэч з калгаса, каб вочы мае цябе не бачылі!

І з"явіўся загад №7: галоўнага агранома калгаса за з"яўленне на рабочым месцы ў нецвярозым стане звольніць па артыкулу 33 п.7 і выключыць з членаў калгаса. Старшыня тут жа ўзяў на яго месца новага спецыяліста. Маўляў, рашэнне канчатковае і перагляду не падлягае...

Не будзем шукаць чорную кошку, якая прабегла паміж кіраўнікамі гаспадаркі: абодва бакі паводзілі сябе далёка не анёламі. Паглядзім лепш на бок юрыдычны. І ў першую чаргу вачыма старадарожскіх суддзяў, да якіх В.У.Бірук звярнуўся ў пошуку справядлівасці. Ён пісаў:"16 жніўня праўленне прагаласавала супраць выключэння мяне з калгаса. 17 жніўня зноў склікалі праўленне, мяне на яго пасяджэнне не пусцілі. І пяццю галасамі «за», двума «супраць» прынялі незаконнае рашэнне..."

Суд цалкам пагадзіўся з Валерыем Уладзіміравічам. Ён адзначыў, што аднаўляць ці не В.У.Бірука на рабоце — справа выключна агульнага сходу калгаснікаў. Тым не менш, палічыў сваім абавязкам адказаць на галоўнае пытанне: ці былі законныя падставы для звальнення спецыяліста? І катэгарычна заявіў: «Не!».

Па-першае, як на адным, так і на другім пасяджэнні праўлення не быў прадстаўлены акт, што галоўны аграном сапраўды быў на рабоце выпіўшы. Склалі і падпісалі яго значна пазней. Якія аргументы сведак? Лапанік у судзе, напрыклад, прывёў такі аргумент: усе гаварылі, што Бірук п"яны, ну і ён... Шалапа ўбачыў, што з носа ў галоўнага агранома ішла кроў, і зрабіў вывад: крывяны ціск, лёгкая ступень ап"янення. Трэці наконт выпіўкі ўвогуле нічога канкрэтнага сказаць не мог...

Па-другое, на праўленні не заслухалі самога В.У.Бірука, ніхто не праінфармаваў прафком. Нарэшце, прымаць рашэнне аб звальненні галоўных спецыялістаў, тым больш — аб выключэнні з членаў калгаса, мае права толькі агульны сход калгаснікаў, а не праўленне.

У вёсцы, вядома, нічога не схаваеш, людзі добра ведаюць ступень вінаватасці кожнага з бакоў у любым канфлікце. Таму агульны сход вырашыў: В.У.Бірук калгасу патрэбен, ён павінен працаваць на сваёй пасадзе. Тым больш што і пракурор апратэставаў загад аб яго звальненні.

Карацей, самаўпраўнаму старшыні сказалі і «знізу» і «зверху»: «Ты не маеш рацыі, Леанід!». Застаецца адно: прызнаць памылку. Але Леанід Міхайлавіч не з такіх, ён і цяпер імкнецца прытрымлівацца любага сэрцу пастулата: закон што дышаль, куды павернеш, так і выйдзе. Таму напісаў адказ у пракуратуру: рашэнне праўлення калгаса аб санкцыях супраць Бірука адменена, ён пакінуты на ранейшай пасадзе. А сам тым часам не заўважае Валерыя Уладзіміравіча, калі той прыходзіць на работу. Быццам няма яго — і ўсё тут. Не звальняе і новага галоўнага агранома. Атрымліваецца — двое на адной пасадзе. І ў пракуратуру паляцела чарговая скарга Валерыя Уладзіміравіча: Л.М.Доўгаль не выконвае рашэнне агульнага сходу калгаса, не дапускае мяне да выканання службовых абавязкаў.

— Чым жа канфлікт закончыцца? — пытаю ў пракурора раёна А.М.Мароза.

— Нікуды Доўгаль не дзенецца, адновіць спецыяліста на пасадзе, — запэўніў Аляксандр Міхайлавіч. — Бо дзеянні яго абсалютна беззаконныя.

Так яно і павінна быць. І грошы Валерыю Уладзіміравічу за вымушаны прагул выплаціць давядзецца. Толькі хутчэй за ўсё самаўпраўства старшыні, як не раз бывала ў падобных сітуацыях, аплаціць працоўны калектыў — паляводы, жывёлаводы, механізатары...

А вельмі шкада. Сёння кожны за сябе плаціць павінен. Тым больш калі плата тая — за ўласны «круты нораў».

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

# Ці ведаеце вы, што...

...першы ў свеце музей васковых фігур быў створаны не ў Англіі (паноптыкум славутай мадам Цюсо), а ў "другой сталіцы" Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Як гэта адбылося? На зыходзе XVI і ў пачатку XVII стагоддзяў хеўра разбойнікаў паквапілася на самыя славутыя каштоўнасці ўжо спаланізаваных Радзівілаў — 12 апосталаў з золата, срэбра і дзівосных камянёў. Хітрыя і дальнабачныя Радзівілы ўсё прадугледзелі — яны зрабілі копіі з воску гэтых апосталаў і разам з васковымі фігурамі з адбіткаў забітых разбойнікаў выставілі іх у Блакітнай зале палаца ў Нясвіжы.

Дзе арыгіналы гэтых апосталаў і іх копіі — сёння нікому не вядома. Час знікнення іх пазначаны Айчыннай вайной 1812 года...

●

... у некалі славутым Дзярэчыне (мястэчка ў Зэльвенскім раёне) у ваяводы Сапегі "віно кіпрскае, італьянскае і гішпанскае" разносілі ў такой колькасці графінаў, колькі дзён мае год, а квартаў мёду выпівалі столькі, колькі год мае гадзін (8.760!)...

Іншая мясціна, іншыя прóдкі: "На замку ў Ланцуце брат Канстанцін Любамірскі з Феліцыянам Патоцкім былі на Вялікдзень у гасцях. З'елі яны 60 валоў, 300 цялят, 50 бараноў, 150 свіней і парсюкоў, 21 тысячу курэй, 12.740 рыб, 10 порцый ракаў, 4 кіпы перцу ды выпілі 270 бочак піва..."

●

...сегодняшний мир поставлен на грань кризиса, вызванного старением населения. Главный экономист Всемирного банка М.Бруно в докладе "Предотвратить кризис старения" предупреждает: "Увеличение продолжительности жизни и снижение рождаемости — положительные показатели нормального процесса развития — свидетельствуют также о быстром увеличении числа пожилых людей в отношении к общей численности населения". Если в 1990 году в мире насчитывалось более 500 миллионов человек — около 9 процентов населения земного шара — в возрасте 60 и более лет, то к 2030 году их численность утроится и составит 1 миллиард 400 миллионов.

Наша справка: по данным Госкомстата, на начало 1993 года в республике насчитывалась 2.551 тысяча пенсионеров, или 247 человек на каждые 1.000 человек населения. Граждане Беларуси старше трудоспособного возраста составляли 20,1 процента от общей численности населения.

●

...сёння можна смела і гучна сказаць на ўсю Беларусь: прафесар, доктар геолага-мінералагічных навук Эрнст Аркадзьевіч Ляўкоў сваёй кнігай "Маўклівыя сведкі мінуўшчыны" ўпісаў у гісторыю беларускага друку адну з самых яркіх і адметных старонак. У 1995 годзе гэтая кніга будзе перавыдадзена, бо з дня выхаду ў свет стала незвычайнай каштоўнасцю ў галіне гісторыі і будучыні беларускіх камянёў і бібліяграфічнай рэдкасцю.

Аднак знакаміты вучоны Э.Ляўкоў вядомы не толькі адкрыццямі і ведамі па геалогіі і мінералогіі, але і даследаваннямі слова "гега". Пачуўшы яго аднойчы, ён зрабіў яго гістарычна-моўную рэканструкцыю. Аказалася, што беларускаму слову "гега" — 5 тысяч год. І яно абазначае "крэмень". Ад "гегі" вядома нямецкае "hegen" — аберагаць, жамойцкае "jega" — моц. І яшчэ вядома інтэрнацыянальнае слова "гегемон" — правадыр, кіраўнік. Вядомы таксама беларускія словы "нягега", "нягеглы"...

Крэмень — гега — у старажытнасці каштаваў даражэй за золата. Як паказваюць даследаванні, шмат тысячагоддзяў назад у Беларусі было больш за 10 тысяч гегавых (крэмніевых) шахт.

●

...Святоній у сваіх допісах адзначыў такую якасць у вялікага палкаводца, грамадскага дзеяча і пісьменніка Гая Юлія Цэзара: "Віна ён піў вельмі мала: гэтага не адмаўляюць нават яго ворагі". Марку Катону належаць словы: "Цэзар адзін з усіх бярэцца за дзяржаўны пераварот цвярозым". Але, аказваецца, якасцей у нашага Альгерда Вялікага было болей — ён зусім не піў алкагольных напояў. Вось што занатаваў адзін з летапісцаў: "... ён не піў ні віна, ні піва, меў вялікі розум і падначаліў шмат зямель, патаемна рыхтаваў свае паходы, ваюючы не столькі колькасцю, колькі ўмельствам". Цікава, што потым рускія вучоныя і даследчыкі ўвялі тэрмін: "ваяваць не колькасцю, а ўмельствам" у суvoраўскую "Навуку перамагаць..."

*(Па матэрыялах друку.)*

